# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№10 (221)

кастрычнік 202

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

### Развітанне са Змітраком Бядулем

3 лістапада ў Беларускай хатцы ў Мінску прайшло грамадскае развітанне з беларускім класікам Змітраком Бядулем, чые парэшткі былі перавезеныя сёлета з Уральску (Казахстан) у Мінск.

Старонка 2

### Падведзены вынікі Сусветнага кангрэсу беларусаў

З 31 кастрычніка да 1 лістапада 2020 года, цягам 25 гадзінаў, доўжыўся Сусветны кангрэс беларусаў - сустрэча беларусаў усяго свету, арганізаваная супольнасцю "Беларусы замежжа".

### “Хапае на амапаўскія балаклавы – мусіць хапаць і на медычныя маскі”

BYCOVID не перазапусцяць з прыходам другой хвалі пандэміі.

Старонка 3

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома




# ЗБОР РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ПРАЦ ВІТАЎТА ТУМАША ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

Чарговы сюрпрыз ад “Бібліятэкі “Бацькаўшчыны” – у падсерыі “Спадчына. Агледзіны” выйшаў збор галоўных навуковых прац Вітаўта Тумаша. Кніга мае ажно чатыры прадмовы, а кожны са змешчаных у ёй тэкстаў грунтоўна пракаментаваны ў фірмовым стылі даследчыкаў-укладальнікаў Наталлі Гардзіенка і Лявона Юрэвіча – колькасць падрадковых каментароў ідзе на чатырохзначныя лікі.

Пад адной вокладкай змешчаны рэвалюцыйныя “Пытанні этнагенезу і культурнага развіцця беларусаў (балцкі элемент пры паўстанні сучаснага беларускага народу)” і праца “Жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны”, якая ў свой час апярэджвала тутэйшае скарыназнаўства, аперуючы дакументамі аб здачы Скарынам экзамену, доказамі “маскоўскага эпізоду” ў яго жыццяпісе, а таксама аргументамі ў барацьбе з “геаргізацыяй” Скарыны. Следам за імі ідзе “Кніжная справа на Беларусі” і некалькі драбнейшых артыкулаў.

Вітаўт Тумаш (1910 – 1998) – чалавек, імя якога адным з самых першых прыходзіць на розум, калі размова заходзіць пра ўнёсак беларускай эміграцыі ў нацыянальную навуку.

Паводле слоў блізкага атачэння, сам Вітаўт Тумаш амаль што фізіялагічна не трываў любой публічнасці ў дачыненні да сваёй персоны і ўнікаў яе як толькі мог. Але капрызны лёс настойліва вёў яго праз знакавыя беларускія культурніцкія асяродкі на Радзіме і ў эміграцыі, нязменна выводзячы ў першыя шэрагі, зацягваў у палітычныя сітуацыі, слова “неадназначнасць” для якіх ёсць ці не самай мяккай характарыстыкай, і спрыяў у навуцы, нярэдка дазваляючы на некалькі крокаў апярэджваць калег з метраполіі. Беларуская гімназія ў Вільні, Віленскі ўніверсітэт, хор Шырмы, віцэ-старшынства ў Таварыстве беларускай школы, дзейнасць у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве, у Беларускім камітэце ў Лодзі, пасада мінскага бурмістра ўлетку 1941 г., старшынства ва ўрадзе БНР і ў Фундацыі П. Крэчэўскага на эміграцыі. І нарэшце – заснаванне Беларускага інстытута навукі і мастацтва і плённая праца ў гэтай установе, якая да сёння карыстаецца нязменна вялікім аўтарытэтам сярод даследчыкаў.

Уважлівы чытач мог заўважыць, што тэксты гэтага аўтара з’яўляліся ў “Бібліятэцы “Бацькаўшчыны” і раней. Ён быў удзельнікам ліставання камітэта па стварэнні беларускага перакладу Бібліі (Лявон Юрэвіч “Шматгалосы эпісталярыум”), скарыназнаўчага ліставання (Лявон Юрэвіч “Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія”), а таксама ліставання па падрыхтоўцы эміграцыйнага, нецэнзураванага збору твораў Янкі Купалы “Спадчына” (“Як укладалі “Спадчыну”).

Інфармацыйны цэнтр
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

навіны ЗБС “Бацькаўшчына”

# РАЗВІТАННЕ СА ЗМІТРАКОМ БЯДУЛЕМ

3 лістапада ў Беларускай хатцы ў Мінску прайшло грамадскае развітанне з беларускім класікам Змітраком Бядулем, чые парэшткі былі перавезеныя сёлета з Уральску (Казахстан) у Мінск.

Эксгумацыя парэштквў прайшла сёлета ў лютым, прах самалётам даставілі ў Беларусь. Шыльды, літары з надмагільля таксама прывезьлі ў Беларусь і перадалі ў філіял Музэю гісторыі беларускай літаратуры – “Беларускую хатку”.

Мерапрыемства наведалі прадстаўнікі ЗБС “Бацькаўшчына” – старшыня Рады Ніна Шыдлоўская і намеснік старшыні Рады Валер Герасімаў, і кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў на чале са старшынём Барысам Пятровічам.

У той самы дзень у Мінску на Усходніх могілках адбылося перапахаванне пісьменніка. Праваслаўны святар айцец Віктар адслужыў паніхіду, а рабін Рыгор Абрамовіч прачытаў малітву на іўрыце. Пазней будзе абвешчаны конкурс на помнік. Пакуль што на магіле паставілі крыж. Надпіс на шыльдзе – чамусьці па-руску.

Беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля (сапраўднае імя Самуіл Плаўнік) памёр 3 лістапада 1941 года ў эвакуацыі і быў пахаваны ў казахстанскім горадзе Уральску. Сын пісьменніка Яфім Плаўнік расказаў, што было шэсць спробаў перавезці прах бацькі на радзіму ў Беларусь, і толькі на сёмы раз гэта ўдалося.



Спераду: старшыня Рады ЗБС “Бацькаўшчына” Ніна Шыдлоўская і намеснік старшыні Рады Валер Герасімаў. Ззаду: старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і і намеснік старшыні Алесь Пашкевіч.

Прычым адбылося гэта дзякуючы намаганням грамадскасці і Фонду імя Марыі Магдалены Радзівіл. Старшыня Фонду Аляксандр Сапега, які ездзіў на эксгумацыю ў Казахстан, не змог прыехаць са Швейцарыі ў Беларусь на перапахаванне з прычыны праблем з каранавірусам.

Паводле lit-bel.org і svaboda.org

# ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ СУСВЕТНАГА КАНГРЭСУ БЕЛАРУСАЎ

З 31 кастрычніка да 1 лістапада 2020 года, цягам 25 гадзінаў, доўжыўся Сусветны кангрэс беларусаў - сустрэча беларусаў усяго свету, арганізаваная супольнасцю "Беларусы замежжа".

Гэта была падзея сусветнага маштабу. На анлайн-платформе беларускія дыяспары ўсяго свету аб’яднальі свае сілы для арганізацыі дыялогу аб будучыні Бацькаўшчыны, для абмеркавання актуальных праблем, распрацоўкі стратэгіі выйсця з крызісу, усталявання зносін паміж беларусамі ўсяго свету. Агулам за кангрэсам назірала каля 150 000 чалавек, больш як з 50 краінаў.

Кангрэс прайшоў у фармаце відэаканферэнцыі, якая склалася з выступаў і мадэруемых дыскусій з удзелам экспертаў. 131 прамоўца пры спрыянні 19 мадэратараў выказаў сваё меркаванне з нагоды вострых сацыяльных, палітычных, эканамічных, культурных, гуманітарных і іншых праблем сучаснага беларускага грамадства.

Сярод выступоўцаў – нацыянальны лідар Святлана Ціханоўская, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, палітыкі, у тым ліку Павел Латушка і Валерый Цапкала, прадстаўнікі беларускіх незалежных прафсаюзаў, беларускія ўрачы, педагогі, спартоўцы, эканамісты, юрысты, праваабаронцы, эканамісты, прадпрымальнікі, дзеячы культуры, святары розных канфесій, грамадскія актывісты, дыпламаты, былыя дзяржаўныя чыноўнікі і сілавікі.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прадстаўляла яго кіраўніца і каардынатарка грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" Алена Макоўская, якая выступіла з прэзентацыяй "Беларуская дыяспара: гісторыя, выклікі, магчымасці".

Па выніках кангрэсу была зацверджана адмысловая рэзалюцыя, якая складаецца з 45 пунктаў. Азнаёміцца з ёй і з матэрыяламі кангрэсу можна на сайце арганізатараў belaruscongress.org.

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

навіны

# ЧЭХІЯ ПРЫНЯЛА НА ЛЯЧЭННЕ 43 ПАЦЯРПЕЛЫХ ПРАТЭСТОЎЦАЎ

Да гэтага часу Чэхія дапамагла 43 беларусам, пацярпелым падчас пратэстаў супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта паведамляе сайт СТК Ceske Noviny, спасылаючыся на Міністэрства ўнутраных спраў Чэхіі.

Міністэрства ўнутраных спраў Чэхіі паведаміла 10 кастрычніка, што гэтыя беларусы пацярпелі ў сутыкненнях з сіламі бяспекі, на некаторых з іх засталіся сляды катаванняў. Амаль усім патрэбная псіхалагічная дапамога. “Мы разлічваем, што агулам прыедуць каля 50 пацыентаў. Цяпер наймаладзейшаму з іх – 15 гадоў, найстарэйшаму – 56”, – сказалі ў міністэрстве.



Паводле міністра ўнутраных спраў Яна Гамачэка, іх траўмы былі большыя, чым чакалася. “Гэта агнястрэльныя раненні, шматлікія пераломы, траўмы вачэй і вушэй пасля выбуху гранаты, а ў некаторых людзей ёсць нават сляды катаванняў”, – сказаў Гамачэк.

Медычныя выдаткі, уключаючы транспарт, аплаціла Міністэрства ўнутраных спраў Чэхіі. Пацыентаў адбірала адмысловая гуманітарная рада, якая складалася з прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Чэхіі. Беларусаў перавозілі ў Чэхію індывідуальна паветраным або наземным транспартам.

svaboda.org

навіны

# “ХАПАЕ НА АМАПАЎСКІЯ БАЛАКЛАВЫ – МУСІЦЬ ХАПАЦЬ І НА МЕДЫЧНЫЯ МАСКІ”

BYCOVID не перазапусцяць з прыходам другой хвалі пандэміі.

Валанцёрская кампанія BYCOVID19, якая дапамагала медыкам падчас першай хвалі пандэміі каранавірусу, заявіла, што не будзе перазапускаць праект з прыходам другой хвалі пандэміі каранавірусу.

Валанцёры растлумачылі, чаму ўзаемадзеянне з дзяржавай гэтым разам немагчымае.

• Улады заблакавалі пляцоўку MolaMola, на якой людзі збіралі грошы для медыкаў. Яе заснавальніка Эдуарда Бабарыку зняволілі. Цяпер у Беларусі няма як зладзіць зручны і празрысты збор сродкаў.

• Сузаснавальнікі BYCOVID19 Андрэй Стрыжак і Андрэй Ткачоў з’ехалі з краіны ад пераследу ўладаў.

“Дзяржаве было б някепска вызначыцца з прыярытэтамі, – гаворыцца ў допісе BYCOVID19. – Калі хапае на вадамёты і сістэмы “Бар’ер”, то мусіць хапаць грошай і на ШВЛ і кіслародныя канцэтратары. Калі хапае рэсурсу надзець балаклаву ці маску на кожнага сілавіка, значыць, ёсць грошы на медычныя маскі і рэспіратары. Калі хапае грошай аплачваць шматмесячныя дзяжурствы сотцень амапаўцаў – значыць, хапае на аплату і звышаплату працы патрэбнай колькасці медработнікаў”.

Да таго ж, вясной быў дэфіцыт масак і рэспіратараў. Цяпер жа на іх “проста трэба выдзеліць бюджэт”.

“Мы ўпэўненыя, што грамадства ўсяляк падтрымае медыкаў, якія будуць патрабаваць, каб адміністрацыі забяспечвалі патрэбныя ўмовы працы, належную абарону і сумленную інфармацыю для грамадства. У тым ліку пра смяротнасць і рэальны ўзровень захворвальнасці”, – зазначылі валанцёры BYCOVID19.



Андрэй Стрыжак (справа) — адзін з сузаснавальнікаў BYCOVID19. Каб застацца на свабодзе, ён з’ехаў за мяжу.

Валанцёрская ініцыятыва дапамогі медыкам #ByCovid19 за 80 дзён працы перадала шпіталям 428 078 сродкаў абароны і 1421 адзінак апаратуры, было сабрана $335 000 на дапамогу ў барацьбе з каранавіруснай інфекцыяй.

svaboda.org

# ПРЫХІЛЬНІКІ ПЕРАМЕН ЗАПУСЦІЛІ ПРАЕКТ “23.34”

Прыхільнікі перамен запусцілі спецыяльны інтэрнэт-праект “23.34” (24-net) для збору звестак аб парушэннях правоў чалавека ў перыяд пасля прэзідэнцкіх выбараў. Прэзентацыя адбылася 23 кастрычніка ў Менску.

“23.34” – сумесны спецпраект Каардынацыйнай рады (КР) па ўрэгуляванні палітычнага крызісу ў краіне, міжнароднага камітэта па расследаванні катаванняў у Беларусі, штаба экс-прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Віктара Бабарыкі, праваабарончага цэнтра “Вясна”, платформы “Голас” і ініцыятывы “Сумленныя людзі”.

Праект названы па нумары артыкула КоАП аб парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў, якую ўлады актыўна прымяняюць да затрыманых на акцыях пратэсту прыхільнікаў перамен.

Як паведаміў былы старшы віцэ-прэзідэнт EPAM Systems член КР Максім Баграцоў, праект прызначаны для таго, каб “інфармацыя аб парушэннях правоў чалавека, якія адбываюцца з гэтага лета, не была прапушчаная, забытая, а была сабраная”. Паводле яго слоў, гэта неабходна, каб пасля яе можна было “выкарыстоўваць для прыцягнення ўвагі да таго, што адбываецца ў Беларусі, для аказання дадатковай дапамогі людзям, якія пацярпелі, і аднаўлення справядлівасць у будучыні”.

“Платформа і сістэма – гэта досыць просты сайт, дзе кожны чалавек, які быў затрыманы на падставе аднаго з гэтых артыкулаў, можа падзяліцца сваёй гісторыяй, інфармацыяй пра тое, як адбывалася затрыманне, у якіх умовах чалавек утрымліваўся пасля гэтага, дадатковымі дэталямі, якія нам потым дапамогуць, з аднаго боку, зрабіць гэтую гісторыю здабыткам грамадскасці і дапамагчы людзям у нейкіх выпадках”, – адзначыў Баграцоў. Ён дадаў, што запаўняць анкету на сайце могуць не толькі людзі, якіх асудзілі паводле арт. 23.34 КоАП, але і прыцягнулі да адказнасці паводле іншых артыкулаў з парушэннем іх правоў.

Старшыня рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб’яднання “Беларускі Хельсінкскі камітэт” Алег Гулак адзначыў, што “праблема не толькі ў артыкуле 23.34 КоАП, яна найперш у самім законе аб масавых мерапрыемствах, які было б правільна называць законам аб забароне масавых мерапрыемстваў”.

“Рэальна гэты закон найгрубейшым чынам парушае правы чалавека на выказванне свайго меркавання, дэманстрацыю гэтага меркавання публічна шляхам удзелу ў масавых мерапрыемствах, – падкрэсліў праваабаронца. – Ён парушае і беларускую Канстытуцыю, і міжнародныя стандарты, якія наша краіна добраахвотна прыняла на сябе. Усе пустыя размовы, што дэманстранты дзейнічаюць па-за прававым полем, гэта ўсё размовы для людзей, якія не разумеюць і не хочуць ведаць права, не ведаюць заканадаўства. Любы дасведчаны юрыст скажа, што такое заканадаўства не варта прымяняць. З юрыдычнага пункта гледжання яно нікчэмнае, таму што павінны прымяняцца нормы больш высокага ўзроўню, якія сапраўды павінны дазваляць чалавеку мірна выказваць сваё меркаванне публічна”.

“Пазіцыя праваабарончай супольнасці прынцыповая: тое, што мы бачым на працягу больш як двух месяцаў на беларускіх вуліцах, – цалкам незаконныя дзеянні сілавікоў і органаў улады супраць свайго насельніцтва, якое мірна рэалізуе свае законныя правы. Адпаведна, усе прыцягненні да адказнасці (я ўжо не бяру тое, як гэта адбываецца – з парушэннямі працэсуальных працэдур, правоў на абарону і справядлівы суд) незаконныя, бо прымяняецца заканадаўства, якое не павінна мець юрыдычнай сілы”, – адзначыў Гулак.

Праваабаронца дапоўніў, што праект дазволіць зафіксаваць “і тых людзей, якія пацярпелі, і тых, якія былі датычныя да таго, каб сістэма рэпрэсій існавала”.

Прадстаўнік праваабарончай арганізацыі Human Constanta, член міжнароднага камітэта па расследаванні катаванняў у Беларусі Валдзіс Фугаш назваў новы праект добрай магчымасцю “ахапіць больш пацярпелых, чым атрымліваецца ў праваабарончых арганізацый з аб’ектыўных прычын, таму што чалавечыя рэсурсы не бязмежныя, а таксама магчымасцю ўжо зараз мець вялікую карціну таго, што адбывалася, да таго як мы атрымаем доступ да матэрыялаў справы”.

Старшыня пазбаўленага ў Беларусі рэгістрацыі праваабарончага цэнтра “Вясна” член КР Алесь Бяляцкі адзначыў, што калі “ў адносна спакойныя гады” арганізацыя, якую ён узначальвае, у сярэднім рэгістравала за год 1.000–1.300 адміністрацыйных затрыманняў, звязаных з грамадска-палітычнай актыўнасцю, то за апошнія два з паловай месяцы “праз гэта прайшлі ўжо прыблізна 15 тыс. чалавек”.

“Гэта не проста затрыманні, калі чалавека затрымалі, пасадзілі ці далі штраф і потым адпусцілі, – канстатаваў Бяляцкі. – Гэта катаванні. Мы бачылі, як масава яны чыніліся адразу пасля 9 жніўня, калі тысячы чалавек прайшлі праз свядомыя запланаваныя катаванні, якія адбываліся ва ўсіх гарадах Беларусі. Людзей збівалі, прыніжалі, мучылі. Гэта масавае злачынства супраць чалавечнасці. Такія выпадкі адбываюцца і цяпер, магчыма, не так масава, але мы ўвесь час іх фіксуем”.

Паводле яго слоў, праект дазволіць даведацца, “што было з чалавекам да суда, як яго затрымалі, прывезлі ў РУУС, у якіх умовах ён там знаходзіўся, што было далей, умовы ўтрымання падчас арышту”. “Мы вельмі спадзяемся, што ўсё гэта будзе захоўвацца гэтак жа, як і судовыя пастановы, дзе запісаныя прозвішчы суддзяў, сведак. Думаю, база дакументаў, якія будуць фіксавацца пры зборы гэтай інфармацыі, надзвычай важная пры наступных разглядах. Я ўпэўнены, што наступіць час, калі будуць прааналізаваныя дакументы, і людзі, якія вінаватыя ў злачынствах, будуць прыцягнутыя да адказнасці згодна з законам. Гэтая база будзе добрай дапамогай у справе дасягнення справядлівасці”, – заявіў Бяляцкі.

“Беларускае Радыё Рацыя” паводле belapan.by




a.com, euroradio.fm,
va.by, facebook.com

**салідарнасць**

# У РЫМЕ ЛЯ ПАНТЭОНА РАЗГАРНУЛІ 30-МЕТРОВЫ БЕЛАРУСКІ СЦЯГ



У аўторак 6 кастрычніка ў Рыме прайшла маніфестацыя ў падтрымку правоў і свабод у Беларусі.

Разам з беларусамі Італіі выказалі сваю салідарнасць сенатарка Эма Баніно, прадстаўнікі Дэмакратычнай і Радыкальнай партый і іншыя парламентарыі. Прыйшлі і чальцы ўкраінскай хрысціянскай асацыяцыі Італіі.

У сваёй прамове Лаўра Бальдрыні з Дэмакратычнай партыі заклікала прэм'ер-міністра Джузэпэ Контэ сустрэцца з Святланай Ціханоўскай, як гэта ўжо зрабілі Макрон і Меркель.

Удзельнікі акцыі заклікалі парламент Італіі пачаць працаваць з Каардынацыйнай радай.

Паводле svaboda.org, фота Elio Castoria



# СТАЛА ВЯДОМА, ЧАМУ БЫЎ ЗВОЛЬНЕНЫ АМБАСАДАР БЕЛАРУСІ Ў ЛАТВІІ ВАСІЛЬ МАРКОВІЧ

Партал DELFI піша, што пасля выбараў амбасадар прыйшоў на сустрэчу беларускай суполкі "Світанак" і пацвердзіў, што ў Латвіі перамагла Святлана Ціханоўская.

Пасля гэтага Марковіч быў выкліканы ў Мінск і пазбаўлены дыпламатычнага статусу.

Згодна з афіцыйнымі вынікамі галасавання ў Латвіі, Ціханоўская набрала 59% галасоў, Лукашэнка – 34%.

nashaniva.by

# БЕЛАРУСЫ ШВЕЙЦАРЫІ ВЫЙШЛІ НА АКЦЫЮ САЛІДАРНАСЦІ І ПАДПІСАЛІ ПАШТОЎКІ ПАЛІТВЯЗНЯМ

3 кастрычніка адбылася сёмая па ліку ў Швейцарыі і трэцяя ў Берне акцыя салідарнасці з беларускім народам.

Да яе далучыліся каля паўсотні ўдзельнікаў.

Акцыя ладзілася на вакзальнай плошчы, многія швейцарцы і госці змаглі яе пабачыць на ўласныя вочы.

Як расказаў адзін з арганізатараў Аляксей Мілюкоў, людзі актыўна падыходзілі, фатаграфаваліся і здымалі відэа, цікавіліся, з якой нагоды сабраліся ўдзельнікі.




"Мы ўсё даходліва тлумачылі, а таксама пералічылі ўсіх палітзняволеных, многія з прысутных падпісалі ім паштоўкі са словамі падтрымкі і ўжо ў панядзелак яны будуць адпраўленыя ў Беларусь. Акцыя прайшла пад воклічы "Жыве Беларусь!" і "Верым! Можам! Пераможам!". Спявалі песні, у тым ліку "Муры", – паведаміў Аляксей Мілюкоў.

Паводле яго слоў, у акцыі ўзялі ўдзел прыкладна паўсотні чалавек, якія прыехалі з розных куткоў Швейцарыі, а таксама з Францыі.

Людзі казалі, што для XXI стагоддзя абсалютна непрымальны гвалт, які мае месца ў Беларусі.

Удзельнікі заклікалі сусветную грамадскасць дапамагчы беларусам здабыць свабоду ад рэжыму Лукашэнкі, правесці сумленныя і адкрытыя выбары.

svaboda.org

# БЕЛАРУСЫ НІДЭРЛАНДАЎ ЗЛАДЗІЛІ АРТ-ВЫСТАВУ, ПРЫСВЕЧАНУЮ БЕЛАРУСКІМ ПРАТЭСТАМ

11 кастрычніка, у Утрэхце, Нідэрланды, прайшла чарговая акцыя салідарнасці з Беларуссю, на гэты раз у фармаце арт-выставы.

Беларуская мастачка і рэжысёр Таша Арлова, якая жыве ў Амстэрдаме, выступіла арганізатарам і куратарам мерапрыемства. Выстава прайшла ў арт-прасторы “Perron West” недалёка ад цэнтральнага вакзала.

Мэтай выставы “Беларусь. ПЛОШЧА пераменаў” было прыцягненне ўвагі жыхароў Нідэрландаў да падзей у Беларусі праз мастацтва. У экспазіцыі выставы – фотапраект мінскага фатографа Яўгена Адцэцкага “ПЛОШЧА пераменаў”, постары мастакоў культпратэста, відэа-перформанс Лесі Пчолкі, і арт-маркет, дзе можна было набыць фотаработы і паштоўкі. Таксама ахвочыя маглі падпісаць паштоўку палітычным зняволеным Беларусі.



Экспазіцыю наведалі за некалькі гадзін больш за 50 чалавек. Галандцы праяўлялі жывую цікавасць да таго, што адбываецца ў Беларусі, таксама прыйшлі карэспандэнты мясцовых СМІ. У арганізацыі экспазіцыі дапамагалі беларусы – валанцёры і пастаянныя ўдзельнікі акцый салідарнасці, на вуліцы імі таксама былі пастаўленыя палаткі з гарбатай і пачастункамі для наведвальнікаў.

Фармат выставы спраўдзіў чаканні. Было бачна, што нават нядоўгая экскурсія па экспазіцыі з рэальным візуальным кантэнтам і расповедам пра падзеі выклікае вялікую цікавасць у галандцаў. Гэта значыць, што выставачны фармат мае высокую эфектыўнасць у плане прыцягнення ўвагі грамадскасці да сітуацыі ў Беларусі. Наступную выставу, але ўжо вялікіх памераў, плануецца правесці ў канцы кастрычніка ў Амстэрдаме.

**novychas.by**

# 18 КАСТРЫЧНІКА Ў АМСТЭРДАМЕ АДБЫЛАСЯ АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУСКІМ НАРОДАМ

У нядзелю, 18 кастрычніка, у Амстэрдаме, адбылася акцыя салідарнасці з Беларускім народам, арганізаваная беларускай суполкай у Нідэрландах.

Беларуская суполка правяла акцыю салідарнасці і падтрымкі беларусаў, якія ўжо трэці месяц, змагаюцца за свабоду супраць рэпрэсіўнага рэжыму і дзяржаўнага тэрору.

Удзельнікі акцыі сабраліся на цэнтральнай плошчы Амстэрдама і раздавалі мінакам улёткі і буклеты з інфармацыяй пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Акцыя прыцягнула ўвагу жыхароў і гасцей горада. Усяго ў акцыі прыняло ўдзел каля 40 чалавек.

Як заўважыў Марцін Лютар Кінг, несправядлівасць дзесьці пагражае справядлівасці ўсюды, бо поспех рэжыму, якіх трымаецца выключна на гвалце, можа паказаць іншым рэжымам, што можна прыгнятаць народы беспакарана.

Арганізатары акцыі звярнулі ўвагу на тое, што народная перамога яшчэ не дасягнутая. Няглядзячы на гэта, дзіўная адвага беларусаў, якія працягваюць барацьбу выключна мірнымі метадамі, заслугоўвае павагі і падтрымкі міжнароднай супольнасці.

Арганізатары заявілі, што тое, што адбываецца сёння ў Беларусі, – гэта апафеоз паліцэйскага гвалту: на дадзены момант вядома пра больш за тысячу выпадкаў катаванняў, а таксама тры выпадкі сэксуальнага гвалту і шэсць смерцяў. Удзельнікі акцыі паспрабавалі данесці да грамадскасці што гэта адбываецца проста зараз, у 21 стагоддзі, у геаграфічным цэнтры Еўропы, у краіне, якая мяжуе з краінамі ЕС.

Удзельнікі акцыі заклікалі падтрымаць беларусаў у іх барацьбе і пажадалі ім хутчэй дасягнуць пастаўленых мэтаў:

1. Адстаўка Лукашэнкі.
2. Вызваленне ўсіх палітычных зняволеных.
3. Пакаранне ўсіх датычных да гвалту.
4. Правядзенне сумленных і празрыстых выбараў.

**Паводле Мікалая Сева**




# АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ ПРАЙШЛА Ў ЭЙНДХОВЕНЕ




11 кастрычніка, беларуская абшчына Нідэрландаў зладзіла акцыю салідарнасці #GoGirl у Эйндховене.

Жанчыны Беларусі звярнуліся да сусветнай жаночай супольнасці з заклікам аб дапамозе. Яны заявілі, што ў сувязі з апошнімі падзеямі ў Беларусі, яны былі вымушаныя заняць актыўную міратворчую пазіцыю, пасля таго як пачаліся пераследы народных лідараў і бесчалавечныя рэпрэсіі і катаванні мірных дэманстрантаў.

Акцыі супраць гвалту #womeninwhite, якія сабралі тысячы беларускіх жанчын у белым з кветкамі, сталі вядомыя ва ўсім свеце. Удзельніцы акцыі салідарнасці заявілі, што жаночая салідарнасць не ведае межаў, і яны заклікалі жанчын ва ўсім свеце падтрымаць ініцыятыву ў барацьбе за свае правы і годнасць.

Удзельніцы выйшлі на цэнтральную плошчу Эйндховена ў белым і з белымі кветкам. У сувязі з абмежаваннямі, уведзенымі галандскім урадам з-за Covid-19, у акцыі прыняло ўдзел 40 чалавек.

**novychas.by**

**in memoriam**

# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ПІСЬМЕННІК ЛЕАНІД ЧЫГРЫН

Пайшоў з жыцця пісьменнік Леанід Чыгрын, які нарадзіўся ў Беларусі ў 1942 годзе, амаль усё жыццё правёў у Таджыкістане, а шлях свой зямны завяршыў у Растоўскай вобласці, у Расіі.



Прычына смерці адпаведная сённяшняму часу – каранавірус. За гады жыцця назбіраліся і іншыя хваробы.

Мне пашчасціла прачытаць многія яго гістарычныя раманы, аповесці, якія прысвечаны розным часінам, эпохам. Інтрыга, багаты фактаграфічны матэрыял, здольнасць сягнуць у тую ці іншую, далёкую ад дзён сённяшніх, прастору, здольнасць выпісаць сваіх герояў рэльефна, насыціць іх жыццё шматколернасцю думак і падзей, – усё гэта вылучала прозу Леаніда Чыгрына, рабіла яе цікавай для чытача. Шкада, што ён, вопытны пісьменнік, так мала друкаваўся па-за межамі Таджыкістана. Хоць кнігі яго (некаторыя з іх напісаны ў суаўтарстве з таджыкскім празаікам і драматургам Ато Хамдамам) перакладзены і на англійскую, кітайскую, японскую, турэцкую мовы. Мне здаецца, што імя Леаніда Чыгрына ў адным шэрагу з гістарычнымі рускімі пісьменнікамі Цэнтральнай Азіі, якія працавалі над стварэннем гістарычнага мастацкага партрэта гэтай старонкі ў розныя дзесяцігоддзі, – Сяргеем Барадзіным, Морысам Сімашкам, Валянцінам Рыбіным...

Пазнаёміўшыся, пасябраваўшы з Леанідам Аляксандравічам у Душанбэ ў 2008 годзе, я паспеў прыцягнуць яго да супрацоўніцтва з нашым беларускім "Нёманам", дзе некалькі разоў і былі надрукаваны яго творы. Чыгрын вельмі даражыў гэтымі публікацыямі. А яшчэ болей даражыў самой магчымасцю повязяў з Беларуссю. Калі я ў 2008 годзе прыехаў у Душанбэ, то сярод іншых сувеніраў разам з беларускімі цукеркамі перадаў бохан мінскага хлеба. Не памятаю, ці гэта быў "Радзівілаўскі" ці "Нарачанскі" гатунак... Мне ўжо было вядома, што разам з сям'ёю Леаніда Аляксандравіча жыве яго цётка, якая і выгадавала хлопчыка ў Таджыкістане. Беларусь жа ўраджэнец Асінторфа пакінуў адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны... І вось праз некаторы час пасля той маёй паездкі прыходзіць ліст ад пісьменніка. Яго цётка, якую іначай як маці ён не называў, парэзала хлеб на лусточкі, высушыла і трымае гэтыя лусточкі ў сваім пакоі, узнаўляе ў памяці пахі роднай зямлі. Трымае як напамін пра сваю радзіму, пра родную Віцебшчыну, пра Асінторф, дзе разам з маці Леаніда ўдзельнічала ў антыфашысцкім падполлі...

"Таёжны рабінзон", "Хатлонскі бастыён", "Падзенне Сагдыяны", "Жыццё Чжан Цаня, ці Вялікі Шаўковы шлях"... Разглядаю гэтыя кнігі – і ўспамінаю пра Леаніда Чыгрына, якому быў адмераны Усявышнім няпросты шлях. Той шлях пісьменнік і журналіст з Беларусі прайшоў дастойна.

**Алесь Карлюкевіч, "Звязда"**

# ПАМЁР ГІСТОРЫК БАРЫС КЛЕЙН

"У веку 92 гадоў ад хваробы, выкліканай каранавірусам, памёр вядомы гісторык беларускага нацыянальнага, рэвалюцыйнага і вызваленчага руху, мемуарыст, грамадскі дзеяч і педагог Барыс Самуілавіч Клейн", – паведаміў у Facebook Аляксандр Фядута.

"Абарвалася яшчэ адна нітачка, якая звязвала нас з Васілём Быкавым і Аляксеем Карпюком. Сышоў трэці з "гарадзенскага трохкутніка" 1968 года. Чалавек, які здолеў не скарыцца сістэме, адстаяць сваю годнасць і прафесійную рэпутацыю", – напісаў Фядута.

У 2009 годзе выйшла кніга ўспамінаў Барыса Клейна "Недосказанное. Имена".

У пасланні на прэзентацыі Барыс Клейн тлумачыў такую назву кнігі.

"Чаму недавыказанае? Таму што савецкая ўлада, пазбавіўшы мяне навуковай ступені і звання, забараніла выступаць публічна, друкавацца, мне нельга было шукаць працу па сваёй ахвоце, пераязджаць з Горадні ў іншае месца, вольна сустракацца з людзьмі. Так, і гэта – таксама.



Памятаю, як увосень 1971 года да мяне на вуліцы насупраць універмага падышоў Васіль Быкаў. Змрочным быў ягоны твар. Ён перадаў мне навіну прыкладна такімі словамі:

"Ведаеш, Барыс, мяне выклікалі ў КДБ і сказалі, каб я да цябе больш не падыходзіў, інакш яны зладзяць групавую справу, а па ёй і тэрміны будуць большымі".

З 1992 года Барыс Клейн жыў у ЗША.

**svaboda.org**

# АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ ВІКТАР ШВЕД

Сёлета ў сакавіку Віктару Шведу споўнілася 95 гадоў.

Сумная навіна прыйшла з Польшчы. Адышоў у вечнасць Віктар Швед – старэйшы беларускі паэт з Беластока, перакладчык, журналіст, сузаснавальнік Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", сябра Саюза польскіх пісьменнікаў, сталы аўтар тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва", аўтар некалькіх дзясяткаў зборнікаў вершаў на беларускай і польскай мовах.

У 2015 Віктар Швед быў уганараваны ордэнам Францыска Скарыны.

**Інфармацыйны аддзел<br>МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2020 года

**1 лістапада**
- 105 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Міхась Кавыль (сапр. Язэп Лешчанка), паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 2017-м.

**6 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, памёр Лявон Вітан-Дубейкаўскі, архітэктар.
- 40 гадоў таму, у 1980-м, памёр Станіслаў Станкевіч, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**7 лістапада**
- 230 гадоў таму, у 1790-м, нарадзіўся Карл Падчашынскі, архітэктар. Памёр у 1860-м.

**8 лістапада**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Янка Пачопка, паэт. Памёр у 1977-м.

**11 лістапада**
- 145 гадоў таму, у 1875-м, нарадзіўся Альберт Паўловіч, паэт, драматург. Памёр у 1951-м.

**12 лістапада**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Валерый Навіцкі (да 1945 г. – Валянцін Новік), дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Памёр у 2001-м.
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Андрэй Макаёнак, драматург. Памёр у 1982-м.

**13 лістапада**
- 395 гадоў таму, у 1625-м, памёр Саламон Рысінскі, паэт, філосаф.
- 35 гадоў таму, у 1985-м, памер Антон Валынчык, кампазітар.

**14 лістапада**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Міхась Васілёк (сапр. Касцевіч Міхаіл), паэт. Памёр у 1960-м.

**15 лістапада**
- 35 гадоў таму, у 1985-м, памёр Аляксандр Калодка, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**16 лістапада**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Ян Скрыган, пісьменнік. Памёр у 1992-м.

**17 лістапада**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памерла Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая, краязнавец.

**20 лістапада**
- 35 гадоў таму, у 1985-м, памёр Юрка Генію, пісьменнік.

**21 лістапада**
- 190 гадоў таму, у 1830-м, памёр Ян Снядэцкі, астраном, матэматык, філосаф.

**22 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1930-м, нарадзілася Вера Бартуль (дзяв. Касцюкевіч), дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША. Памерла ў 2006-м.

**25 лістапада**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Змітрок Астапенка, паэт. Загінуў у 1944-м.

**26 лістапада**
- 90 гадоў таму, у 1930-м, нарадзіўся Уладзімір Караткевіч, пісьменнік. Памёр у 1984-м.

**27 лістапада**
- Дзень Герояў

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (221), кастрычнік 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27